


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

12 верасня 2003 года

№ 37 (438)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

ПЛЮС ТэлетыДзень


**Навіны рэгіёну**



## Здарэнне на чыгунцы

ВІЛЕЙКА. У ноч на 5 верасня адбылося надзвычайнае здарэнне на пераездзе № 630. Пасажырскі цягнік "Гомель-Рыга" сутыкнуўся са статкам калгасных кароў, якія з-за няспраўнасці электрапастуха выйшлі да чыгункі. Чатыры жывёліны загінулі.

**Марына СЛІЖ.**

## Укралі іншамаркі

МЯДЗЕЛ. Дзве іншамаркі за адну ноч угналі зламыснікі з пляцоўкі каля дамоў па вуліцы 1 Мая ў райцэнтры. Аднак пакатацца на крадзеных аўто не змаглі. Падчас праследавання супрацоўнікамі дзяржаўтаінспекцыі "Аўдзі" не справілася з кіраваннем і з'ехала ў кювет. А "Фольксваген-Гольф" злачынцы кінулі самі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Для маленькіх школьнікаў

АСТРАВЕЦ. Кіналекторый «Мая Беларусь» правялі работнікі кінатэатра і дзіцячай бібліятэкі. Вучні 1-3 класаў даведаліся, чым знакамітыя Ефрасіння Полацкая, Сымон Будны, Францішак Скарына, паглядзелі фільм «Аповесць аб славянскіх пісьменніках».

**Святлана ЦІШКО.**

## Прэзентацыя кнігі

СМАРГОНЬ. Кніга Сяргея Верамейчыка «Міхал Клеафас Агінскі» надрукавана напярэдадні 238-га дня нараджэння кампазітара і літаратара. Прэзентацыя кнігі з удзелам аўтара прайшла ў гарадской школе мастацтваў (былая музычная школа).

**Святлана ЦІШКО.**

## Студэнты-вайскоўцы

ВАЛОЖЫН. У ваенную акадэмію Рэспублікі Беларусь сёлета спрабавалі паступіць 17 валожынскіх выпускнікоў. Толькі пяцёра вытрымалі экзамен. Сярод іх адна дзяўчына — Алена Урбановіч, якая паступіла на факультэт аўтаматызаваных сістэм кіравання.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Не бойцеся – вучэнні

МАЛАДЗЕЧНА. Комплексная трэніроўка ўстаноў сеткі назірання і лабараторнага кантролю па парадку збору і апрацоўцы дадзеных аб радыяцыйнай абстаноўцы пройдзе ў горадзе 17-19 верасня. У ёй прымуць удзел іх нумарныя пасты радыяцыйнага і хімічнага назірання горада і раёна, так і спецыялісты раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Сустрэўшы людзей у спецадзенні, не бойцеся – ідуць вучэнні.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Дададзім экстрыму

**МАЛАДЗЕЧНА. Акцыя «Зноў з сябрамі» прайшла 5 верасня ў Палацы культуры. «Камандаваў парадам» дыджэй Грэк.**

Пачалося мерапрыемства з паказальнага выступлення веласіпедыстаў і скейтбардыстаў (скейтборд, скейт – спецыяльная дошка на колцах). Такіх экстрэмалаў у горадзе няшмат, а на публіцы было і зусім мала, усяго чалавек восем: вечарам у пятніцу некаторыя вучыліся.

Ды-джэй Грэк называў прозвішча і імя, і на пляцоўку перад палацам спачатку выязджалі веласіпедысты: ставілі свайго двухколавага каня на дыбкі, уздымаліся і спускаліся на ім па лесвіцы, ездзілі на заднім коле, скакалі праз адзін і два скейты. Затым да іх далучыліся скейтбардысты. Яны дэманстравалі фігурнае ваджэнне, штурмавалі прыступкі і парапеты. Пасля некаторыя хлопцы памяняліся транспартнымі сродкамі, і скейцеры сталі веласіпедыстамі.

Публіка не заходзілася ад захаплення, але рэагавала жвава, падтрымлівала сваіх равеснікаў апладысментамі. Вочы разбягаліся і не ведалі, на каго глядзець, ад таго, што на невялікай плошчы адначасова выступалі некалькі чалавек. Але гледачы разабраліся, хто ёсць хто. Найбольш упадабалі універсала Віталя Байголава, але і Вольга Радзько таксама ўсіх уразіла: дзяўчына на «веліку», да таго ж навучэнка музвучылішча. Усе экстрэмалы даўно ведаюць адзін аднаго, бо збіраюцца штовечар на Цэнтральнай плошчы і трэніруюцца. Калі ў аднаго з іх не атрымліваецца нейкі трук, астатнія абавязкова падкажуць, што трэба выправіць, як зрабіць лепш. Накаленнікі папулярнасцю не карыстаюцца: толькі перашкаджаюць падскокваць і маневраваць.



Віктар Лянкевіч з 10 «Б» класа СШ №1 горада Маладзечна са сваім неразлучным «сябрам» скейтам.

Фота Святланы ЦІШКО.

Віктар Лянкевіч з СШ №1 пачаў катацца на скейце год таму каля прыпынку «Фестывальны». Пасля перабраўся на плошчу, дзе знайшоў новых знаёмых. Можа паказаць некалькі фокусаў і на веласіпедзе, але ён зараз зламаўся, патрабуе доўгага рамонту, таму хлопец выступаў на скейце. Дарэчы, скейт у яго ўжо другі. На яго пакупку грошы зарабіў сам: прадаваў на рынку сонцаахоўныя акуляры. Пляцоўку каля Палаца культуры скейтбардысты не вельмі паважаюць, бо там пакладзена тратуарная плітка, а трэба гладкая паверхня, каб не было «эфекту пральнай дошкі». Большасць бацькоў не разумеюць такога хобі дзяцей, але Віктару пашанцавала. «Бывае па-рознаму, але не забараняюць катацца, абы дома як-небудзь дапамагаў», — гаворыць ён.

Усе веласіпедысты і скейтбардысты вельмі перажываюць, што лета скончылася, хутка зіма, а крытай пляцоўкі для заняткаў няма. Можа таму экстрэмальныя віды спорту ў Маладзечне слаба развіты, што нашы спартсмены трэніруюцца толькі вясной і летам, як падсохне асфальт. Моладзь спадзяецца на дапамогу кіраўніцтва горада.

Выступленне праз гадзіну закончылася, гледачы пайшлі ў палац на дыскатэку. А «экстрэмалы», хоць і атрымалі білеты ад аддзела па рабоце з моладдзю, адправіліся на Цэнтральную плошчу.

**Святлана ЦІШКО.**

## Залессе сабрала гасцей

У сядзібе Агінскага, якую яшчэ два стагоддзі таму называлі "Паўночнымі Афінамі", прайшла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя.

2-я старонка

## Валерый застаецца адзін?



Вілейчанін Валерый Скаражонак стаў дырэктарам "Песняроў". Гэта прызначэнне не было сустрэта ў калектыве аднназначна.

5-я старонка

## 15 тыдняў новага жыцця



Апошнія 15 тыдняў 1939 года, звязаныя з пачаткам другой сусветнай вайны, былі вельмі насычаныя рознымі падзеямі.

Старонкі 6-7

# Залессе сабрала гасцей

## У сядзібе, якую яшчэ два стагоддзі таму называлі «Паўночнымі Афінамі», сустрэліся аднадумцы

**СМАРГОНЬ. Два дні Залессе прымала ўдзельнікаў Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Гістарычныя сядзібы Беларусі. Стан і перспектывы."**

### Тут правіліся балі

Нават цяжка паверыць, што дзве сотні гадоў таму гэтую сядзібу на Смаргоншчыне сучаснікі называлі "Паўночнымі Афінамі". Што менавіта тут збіраліся выбітныя людзі зямлі беларускай, каб палюбавацца цудоўнай аранжарэяй, паркам і садам з нязвыклымі для паўночнай зямлі раслінамі, звярынцам, з Лебядзінай выспай на ставе.

Тут правіліся балі і канцэрты. І гучала натхнёная, палымяная музыка, якую пісаў у Залессі на Смаргоншчыне гаспадар сядзібы Міхал Клеафас Агінскі.

Залессе – не радзіма слыннага дзяржаўнага дзеяча, дыпламата, паўстанца 1794 года, публіцыста, музыканта і кампазітара. Але тут прайшло дваццаць гадоў яго жыцця, тут нарадзіліся дзеці, убачылі свет яго творы.

І нарэшце, сама залесская сядзіба стала лепшым творам Агінскага-гаспадара. За дваццаць гадоў тут пабудаваны палац, капліца, дзве аранжарэі, млын, бровар і закладзены англійскі рамантычны парк.

### Залессе сённяшняе

Сённяшняе Залессе мала напамінае пра мінулыя хараство і велічнасць "Паўночных Афінаў". На сядзібе ціха. Ад шумных баляў і мноства гасцей засталіся толькі ўспаміны сведкаў ды камяні – маўклівыя і вечныя. Немалы па памерах палац, стары і недагледжаны, яшчэ чакае тых, хто абудзіць яго цішыню і спакой і верне маёнтку былую славу.

На мінулым тыдні асеннюю маўклівасць "Паўночных Афінаў" зноў абудзілі госці. І загучалі пад шатамі старых дрэў вечныя паланэзы Агінскага, а маладыя смаргонскія артысты ўклалі ўсю душу ў трапяткі, кранаючы сэрца танец. І па сцяжынах старога парку, пад дахам першай аранжарэі зноў загучалі галасы тых, хто лічыць Агінскага блізкім.

### Сядзіба прымала гасцей

Два дні Залессе прымала ўдзельнікаў Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Гістарычныя сядзібы Беларусі. Стан і перспектывы." Ладзілі яго Нацыянальная камісія па справах ЮНЕСКА, Дэпартамент па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі камітэт Міжнароднай рады па помніках і мясцінах, Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры і Нацыянальнае агенцтва па турызму і спорту. Не засталіся ўбаку і мясцовыя ўлады. Старшыня Смаргонскага райвыканкома Станіслаў Юргель павіншаваў удзельнікаў прадстаўнічай нарады.

Зрэшты, размова на канферэнцыі вялася не толькі пра Залессе, але і ўвогуле пра стан гістарычных сядзіб і палацапаркавых ансамбляў нашай краіны. Яны – асаблівы пласт нацыянальнай культуры, незаслужана забыты і занядбаны. Розны стан маюць палацапаркавыя ансамблі Беларусі. Некаторыя адрадзіліся, як Дудуткі ў Пухавіцкім раёне, сталі цэнтрамі нацыянальнага турызму і захаванння гістарычнай спадчыны. Іншыя, як тое ж Залессе, перажываюць не лепшыя часы.

Таму беларускія навукоўцы, гісторыкі і арганізатары турызму з цікавасцю слухалі выступленні калег з тых краін, дзе гэты накірунак развіваецца больш удала. У Польшчы, напрыклад, палацы і даўнейшыя сядзібы выкарыстоўваюцца для турыстычнага бізнесу – і дзяржавай, і прыватнымі ўладальнікамі. Пра добраўпарадкаванне каштоўных помнікаў і расказаў прафесар з Польшчы Анджэй Міхайлоўскі.

Шмат цікавага пра работу музеяў-сядзіб у Расіі расказалі музейныя работнікі з Расіі.

Усе прапановы знайшлі адлюстраванне ў выніковым дакуменце канферэнцыі – Канцэпцыі аховы і мэтанакіраванага фарміравання культурных ландшафтаў Рэспублікі Беларусь.

Але колькі б ні вяліся размовы пра стан турызму і ахову сядзіб на Беларусі, ўдзельнікі зноў і зноў вярталіся з нябёсаў на зямлю. На непрывабную ў восеньскую слоту залесскую зямлю, над якой і сёння быццам вітае нябачны дух яго былога гаспадара.

Міхал Клеафас Агінскі зноў сабраў сюды, у "Паўночныя Афіны", сваіх сяброў і паплечнікаў, каб яны прайшліся тапалёвай алеяй, закладзенай кампазітарам, схілілі галовы перад памятным каменем, якім быў гаспадар сядзібы адзначыў памяць свайго настаўніка Жана Ралея. Другі такі камень Агінскі прысвяціў памяці Тадэвуша Касцюшкі. Трэці яго ўдзячныя нашчадкі адкрывалі падчас канферэнцыі. Камень-манумент "Памяці роду Агінскіх" устанавіў на свае сродкі і падараваў жыхарам Залесся мастак і скульптар з Ліды Рычард Груша.

Прынамсі, гэта быў не адзіны падарунак. Навуковы супрацоўнік музея–сядзібы М.К. Агінскага ў Залессі Сяргей Верамейчык спецыяльна да гэтай падзеі выпусціў кнігу-жыццяпіс Агінскага.

Выніковы дакумент прыняты і па праекту аднаўлення, выкарыстання і ўключэння ў сістэму культурнага турызму сядзібна-паркавага ансамбля М.К. Агінскага ў Залессі.

### Да хуткай сустрэчы

Пакуль гэта толькі перспектыва. Але верыцца, што з часам яна стане явай. Таму што зацікавіліся праектам не толькі навукоўцы, але і проста неабыякавыя людзі. Такія, як кіраўнік фермерскай гаспадаркі "Агінскае" Віктар Валадзько, ураджэнец Смаргоншчыны старшыня Нацыянальнай камісіі Беларусі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны. Ды і нашчадак Міхала Клеафаса Агінскага Іва Залускі прыслаў з Англіі прывітанне ўдзельнікам канферэнцыі.

Зноў аціхлі "Паўночныя Афіны". Толькі вецер шапаціць восеньскай лістотай ў старым парку ды па спрадвечным сваім шляху коціць воды рэчка Баброўка – міма альтанкі Амеліі, міма двухсотгадовага вяза, туды, у вечнасць.

Ды на гэты раз ненадоўга прыціхла Залессе. 25 верасня, у дзень 238 угодкаў Агінскага зноў ажыве двор старажытнай сядзібы, абудзіцца галасамі людзей, нераўнадушных да гістарычнай спадчыны свайго краю.

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

■ РОДНАЯ МОВА

## Смачнае слова «верашчака»

**Колькі жывеш — столькі новага пазнаеш. І праўда, кожны дзень жыццё падносіць нам сюрпрызы. А багатая, сакавітая беларуская мова — тым больш.**

Якое смачнае слова "верашчака"! Гэта я цяпер так кажу, а яшчэ нядаўна і думкі не ўзнікала, што верашчака – гэта страва. Канечне, хто ж будзе так думаць, калі чуў пра Марылю Верашчаку, у якую быў закаханы Адам Міцкевіч. Аднак дзяўчына паходзіла з заможнай сям'і, таму адмовілася выйсці замуж за Міцкевіча і абрала сабе ў жаніхі багатага графа.

Першы раз пачуўшы слова "верашчака", я задумалася над тым, што яно магло азначаць. І тут адразу ж прыйшла ў галаву такая здагадка: а можа, тых людзей, што любяць верашчаць, называюць верашчакамі? Але затым вырашыла, што іх хутчэй за ўсё называюць верашчалкамі. Таму пытанне ўсё яшчэ засталося адкрытым.

Якія толькі думкі мне не прыходзілі ў галаву: я нават дзяліла гэтае слова на два: "вера" і "шчака" (з націскам на 2-м складзе), аднак сэнсу ў такім падзеле не ўбачыла; я нават думала, што "верашчака" ўтворана ад невядомага мне слова "верашч".

Ды колькі можна было гадаць? Урэшце я звярнулася да тлумачальнага слоўніка. На самой справе верашчака – гэта рэдкая мучная страва з мясам, кілбасой і рознымі прыправамі. Аказваецца, я столькі разоў мачала бліны ў тую самую верашчаку і не ведала аб гэтым!

Затое цяпер нядзельны сняданак з блінамі ў мяне сумяшчае прыемнае з карысным.



**Асвету нясе Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

■ ДАТЫ

# Незабытая старонка гісторыі

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак на Цэнтральнай плошчы каля помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі сабраліся члены маладзечанскага беларускага дэмакратычнага аб'яднання "Ветэран" на чале з Тадэвушам Шусціцкім. Яны раздавалі мінакам гістарычныя бюлетэні, у якіх расказваецца пра бітву пад Оршай, што адбылася ў гэты дзень у 1514 годзе.**

Мэта гэтых людзей, сёння простых пенсіянераў, – напомніць беларусам аб той славутай старонцы нашай гісторыі, якая, на вялікі жаль, пачала забывацца.

8 верасня не адзначаны ў календары чырвоным колерам, але гэта не значыць, што ніхто не памятае той пераможнай для нас бітвы Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай.

"На зыходзе 1512 года Маскоўская дзяржава распачала новую вайну за "искони русские земли" – пачала наступ на нашу старажытную дзяржаву – Вялікае княства Літоўскае, якая пад уладаю Масквы ніколі не была. Улетку 1514 года велізарнае 80-тысячнае войска маскоўцаў захоплівае беларускі горад Смаленск", – напісана ў бюлетэні, які складзены паводле пісьменніка-гісторыка Уладзіміра Арлова. У той цяжкай бітве перамагло ВКЛ, а ўсе захопленыя маскоўцамі гарады, акрамя Смаленска, былі вызваленыя.

Бюлетэні былі выдадзены на ахвяраванні членаў аб'яднання "Ветэран". Усяго раздалі каля трохсот асобнікаў.

Помнік, ля якога ў панядзелак ладзілася акцыя, быў адкрыты ў 1993 годзе. Тадэвуш Шусціцкі прымаў удзел у гэтай урачыстасці. З таго часу тут збіраюцца людзі на розныя памятныя падзеі. "У 2001 годзе, – гаворыць Тадэвуш Шусціцкі, – мы збіраліся тут, калі адбылася трагедыя ў метро на Нямізе ў Мінску. — Сёння мы не імкнёмся зрабіць з мерапрыемства нейкую асаблівую акцыю. Проста хочацца, каб людзі ведалі, якая падзея адбылася шмат год таму ў гэты дзень. І самае галоўнае, каб успомнілі пра яе менавіта сёння, а не днём раней ці пазней".

8 верасня амаль 500 год таму нам вельмі пашчасціла, мы адстаялі сваю незалежнасць, а крымскія татары, уражаныя перамогаю пад Оршай, на два гады спынілі набегі на нашы землі.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**



Тадэвуш Шусціцкі раздае гістарычныя бюлетэні моладзі на Цэнтральнай плошчы Маладзечна ля помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі.

Фота Яўгені МАНЦЭВІЧ.

■ ТУРЫЗМ

## Компас у рукі

**МАЛАДЗЕЧНА. 21 верасня каля вёскі Відзеўшчына адбудуцца адкрытыя гарадскія асабіста-камандныя спаборніцтвы па спартыўным арыентаванні «Кубак Ларына-2003».**

Рыхтуе іх і праводзіць турклуб «Пілігрым». З 8.00 да 9.30 — рэгістрацыя. У 10.00 — старты. Да ўдзелу дапускаюцца любыя каманды, у залік ідуць 3 мужчынскія і 1 жаночы вынік. У асабістым заліку пераможцы вызначаюцца ў дзвюх узроставых катэгорыях: 12-17 гадоў, 18 гадоў і старэйшыя. Карта каляровая, 1992 года карэкціроўкі, маштаб 1:15000. Мясцовасць моцнаперасечаная, сярэдняй і цяжкай праходнасці.

Стартавы ўзнос 300 рублёў для ўдзельнікаў да 18 гадоў, пасля 18 — 1000 рублёў. Інфармацыя ў турклубе «Пілігрым» па серадах з 19 да 20 гадзін, тэлефон 6-18-21 або штовечар у Валерыя Прыткова па тэлефоне 6-64-54.

**Сяргей БЯЛКОЎ.**

■ АВІЯЦЫЯ

# Першы «беларускі» Боінг

**Мінск, 9 верасня. Нацыянальная авіякампанія «Белавія» падпісала пагадненне аб пастаўцы ў аператыўны лізінг першага самалёта «Боінг 737/500» з амерыканскай лізінгавай кампаніяй «ILFC-International Leasing Finance Corporation» («Міжнародная лізінгавая фінансавая карпарацыя»). Аб гэтым БелаПАН паведамілі ў Дзяржаўным камітэце па авіяцыі. Прыбыццё першага «беларускага» авіялайнера «Боінг 737/500» запланавана на 15 кастрычніка 2003 года ў нацыянальны аэрапорт»Мінск».**



Адзін з лідэраў сусветнай авіяцыі славуты Боінг 737 займее прапіску ў Мінску. Не апошнім пры выбары беларускіх авіятараў былі не толькі якасныя паказчыкі амерыканскага самалёта, а і цана "бэушнай" машыны. Яна абяцае яшчэ адлятаць у небе над Еўропай не менш за прывычныя для краін былога СССР мадэлі ТУ. Фота з архіва "Рэгіянальнай газеты".

У «Белавіі» праінфармавалі, што фінальная стадыя перамоў авіякампаніі з лізінгадаўцам і падпісанне пагаднення адбыліся 29 жніўня 2003 года ў Лос-Анджэлесе (ЗША, штат Каліфорнія). Кантракт падпісалі прэзідэнт «ILFC» Джон Плюгер і генеральны дырэктар «Белавіі» Анатоль Гусараў.

Па ўмовах кантракту «Белавія» атрымае ў лізінг самалёт «Боінг 737/500» 1995 года выпуску, які большую частку свайго лётнага жыцця эксплуатаваўся авіякампаніяй «Continental Airlines» у Амерыцы. Ужо праведзеная папярэдняя ацэнка яго тэхнічнага стану з прыцягненнем незалежнай экспертызы. Паводле заключэння спецыялістаў, самалёт знаходзіцца ў добрым стане і можа быць прыняты да эксплуатацыі без абмежаванняў па тэхнічных стандартах краін ЕС на ўвесь тэрмін лётнага жыцця (да 35 гадоў). Самалёт абсталяваны салонам бізнес-класа, спецыяльным навігацыйным абсталяваннем і рухавікамі CFM56-3C1, якія адпавядаюць патрабаванням па ўзроўню шуму і пасля 2006 года, калі чакаецца ўвядзенне больш жорсткіх «супрацьшумавых» норм краінамі Еўрасаюза.

Кантракт з «ILFC» з'яўляецца першым такога роду для беларускай авіяцыі. Таму падчас арганізацыі і правядзення тэндэра на пастаўку самалёта авіякампанія абапіралася на высокапрафесійную падтрымку экспертаў Маскоўскага офіса карпарацыі «Боінг», партнёраў са страхавой кампаніі «Willis Aerospace», а таксама тэхнічных спецыялістаў авіякампаніі «Міжнародныя авіялініі Украіны», якія маюць вопыт эксплуатацыі самалётаў «Боінг-737». Паводле ацэнак незалежных экспертаў, што ўдзельнічалі ў кансультацыях, авіякампаніі ўдалося ў поўнай меры выкарыстаць існуючыя цяпер асаблівасці лізінгавага рынку і атрымаць выгадныя ўмовы для эксплуатацыі самалёта.

У «Белавіі» адзначаюць, што «ILFC» з'яўляецца адной з вядучых спецыялізаваных лізінгавых кампаній, якая займае другое месца ў сусветным рэйтынгу авіяцыйнага лізінгу. Паводле даных апублікаванай фінансавай справаздачы за 2002 год, «ILFC» уваходзіць у найбуйнейшую амерыканскую страхавую групу «AIG-American International Group, Inc.», як капітал ацэньваецца ў 7,5 млрд. долараў ЗША. Цяпер карпарацыя валодае больш чым 600 самалётамі і вядомая як адзін з найбуйнейшых заказчыкаў кампаніі «Боінг» на пастаўку новых самалётаў. Яна супрацоўнічае больш чым са 150 авіякампаніямі, у тым ліку з такімі найбуйнейшымі авіяперавозчыкамі як «Lufthansa», «Air France», «American Airlines», «Continental Airlines», «Air Canada», «Austrian Airlines», «LOT» і іншыя. У складзе флоту многіх авіякампаній СНД паспяхова эксплуатуюцца самалёты, якімі валодае «ILFC». Гэта, у першую чаргу, «Аэрафлот», «Трансаэра» ў Расіі, «Аэрасвіт» ва Украіне, «Air Astana» у Казахстане і іншыя.

Цяпер у «Белавіі» праводзіцца праца па падрыхтоўцы ўводу «Боінга» ў эксплуатацыю. У складзе лётнага атрада кампаніі створана спецыяльнае падраздзяленне. Пілоты прайшлі адпаведную падрыхтоўку ў Міжнародным авіяцыйным цэнтры падрыхтоўкі (МАЦП) Кіева. У гэтым цэнтры атрымалі сертыфікаты больш за 80 пілотаў авіякампаній краін СНД. Трэнажорная падрыхтоўка ажыццяўлялася ў Амстэрдаме. Сумесна з пілотамі спецыяльную падрыхтоўку прайшла група бортправаднікоў кампаніі па методыцы, што адпавядае патрабаванням «JAR» («Аб'яднаная авіяцыйная адміністрацыя Еўропы»). Пасля атрымання сертыфікату ўсе пілоты прайшлі курс практычнай работы на «Боінгах» Украінскіх міжнародных ліній. Гэта было абавязковым патрабаваннем падрыхтоўкі экіпажаў. Спецыяльную падрыхтоўку прайшла група інжынернага персаналу «Белавіі», якая забяспечыць тэхнічнае абслугоўванне «Боінга».

Камерцыйная служба авіякампаніі правяла працу па падрыхтоўцы максімальна эфектыўнага выкарыстання самалёта ў сетцы маршрутаў. Ужо вядома, што «Боінг» будзе выконваць рэгулярныя рэйсы ў Тэль-Авіў, Рым, Парыж, Лондан, Франкфурт, Ларнаку. У рабочыя дні тыдня на «Боінгу» плануецца выконваць і вячэрнія рэйсы ў Маскву.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 4.09 руб. | 11.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2093,00 | 2097,00 |
| Еўра | 2257,41 | 2354,30 |
| Злоты | 517,72 | 528,81 |
| Літ | 653,80 | 681,75 |
| Расійскі рубель | 68,39 | 68,46 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2090/2115 | 2100/2120 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 3.09 | 10.09 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 12630 | 12500 |
| Сасіскі, 1 кг | 4130 | 4130 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 0,9 кг | 800 | 800 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1400 | 1300 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 1100 |
| Алей, 1 л | 1950 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 450 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 800 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 800 | 850 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1000 | 900 |
| Капуста, 1 кг | 250 | 250 |
| Морква, 1 кг | 500 | 500 |
| Лімоны, 1 кг | 1800 | 1850 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 1900 |
| Памідоры, 1 кг | 850 | 800 |
| Кавуны, 1 кг | 500 | 450 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 750 | 750 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1750 | 1700 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 2800 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1000 |
| Слівы, 5-літр. вядро | 5000 | 4500 |
| Шыпшына, 5-літр. вядро | 2000 | 2000 |
| Брусніцы, 5-літр. вядро | 12000 | 13000 |

## Грыбы для рэстарана

МЯДЗЕЛ. Скарыстацца багатым на грыбы часам вырашылі ў Мядзельскім райспажыўтаварыстве. З ліку сваіх супрацоўнікаў сфарміравалі брыгады зборшчыкаў, якія выязджаюць у лес. Грыбы перапрацоўваюць, пойдуць яны на прыгатаванне розных страў у сталовай і рэстаране ў райцэнтры.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ НА ГАЗЕТУ 63212 (63369) (індэкс выдання)

Рэгіянальная газета

Колькасць

На 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ месца літара 63212 (63369) (індэкс выдання)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА ГАЗЕТУ

Рэгіянальная газета

Кошт падпіскі Колькасць

На 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

■ ПАДПІСКА – 2003

## Будзем разам!

**25 верасня заканчваецца падпіска на першыдычныя выданні. Не адкладвайце гэту справу на апошні дзень, а запоўніце абанемент на "Рэгіянальную газету" ўжо сёння. Наш індэкс для індывідуальнай падпіскі 63212. <u>Кошт не змяніўся</u>: "РГ" на месяц абыдзецца вам у 2000 рублёў, на квартал – 6000 рублёў. Арганізацыі маюць магчымасць падпісацца на газету па безнаяўным разліку. Індэкс ведамаснай падпіскі 63369, кошт на месяц 5941 рубель.**

Будзьце ў нашай кампаніі, а мы, у сваю чаргу, пастараемся не расчараваць вас.

Тэлефоны для даведак: Маладзечна – 7-05-73, Вілейка - 5-64-68, Валожын – 5-54-57, Мядзел – 5-47-52, Смаргонь – 2-14-65, Ашмяны – 2-03-99, Астравец – 2-17-58.

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Яны ворагамі не былі...

**Як жа радаваўся Сцяпан Камінскі з Порсы прыходу саветаў у верасні 1939 года! З паўтара гектара сям’ю не пракорміш, таму мусіў махаць сякерай на будоўлях ад цямна да цямна. “Цяпер саветы і зямлі дадуць, і добрую працу, — цешыўся ён думкамі пра новае жыццё. – Табе, Клава, не давядзецца больш служанкай быць у віленскіх паноў. Самі зажывём, як паны”.**

Але неяк надта ж хутка паклікалі яго ў вілейскае энкавэдэ.

— Коцяць на вас даносы, — сказаў начальнік. – Я разабраўся, гэта тыя, што нічога з вас не высудзілі пры Польшчы. Хоць вы і не вінаватыя, уцякайце як мага далей. Зменіцца начальнік – разбірацца не стане. Яшчэ падвучыць, што і як накляпаць на вас.

Падвучылі і наклапалі новаму начальніку хутка: чакаць не прымусілі. І ўжо перад новым 1940 годам апынуўся С.Камінскі ў Вілейскай турме. Як “вораг народа”. Успамінае іх малодшая дачка Клаўдзія Сцяпанаўна:

— Да нас наскочылі з вобыскам 13 красавіка 1940 года. Акружылі дом узброеныя энкавэдэшнікі. Усюды паролі штыкамі, лазілі нават у падпечак. Старшы сказаў: “Павязём вас да бацькі. У яго там усё ёсць. Таму нічога з сабой не бярыце”. А як ён толькі з хаты сышоў, салдат так ціха і кажа: “Маніць ён... Бярыце з сабой як найбольш: мы дапаможам пагрузіцца на падводу. А то ён сам сабе ўсё заграбастае”. І нас пагналі ў Вілейку ў даўжэзны эшалон.

У цялятніку з двух бакоў — трох’ярусныя нары, бітком набітыя зняволенымі. Успомнілі пра вязняў толькі ў Смаленску. Далі па буханцы хлеба на траіх на цэлы тыдзень, вядро кашы на 10 чалавек і кіпень.

Ноччу 30 красавіка іх даставілі са станцыі Тавалжан у сяло Травянку Паўладарскай вобласці Казахстана. Быў першы дзень Вялікадня, і сяляне сардэчна сустрэлі нявольнікаў. Пачаставалі чырвонымі яйкамі, булкамі з маслам.

— Уладкоўвайцеся, як зможаце. Але раніцай і вечарам адзначацца ў аддзеле энкавэдэ! Штодзённа! – загадалі ім.

– Старшыня калгаса Грэчка быў цудоўным чалавекам, — расказвае Клаўдзія Сцяпанаўна. – Але браць нас на працу ў калгас забаранілі. Тады я з маці і братам Рыгорам пайшлі на заробкі да людзей. А ў пачатку 1941 года сын нашай гаспадыні Іван Мацко уладкаваў мяне ў райцэнтр Успенка швачкай у швейную майстэрню. Недарэмна я ў Вілейцы ў Рохі Кацнельсон вучылася шыць – спатрэбілася. Загадчык майстэрні Аляксандр Чапялюк пасылаў нас абедаць да сваёй жонкі. Было няёмка... Але калі мы перасталі хадзіць на абед да іх, тады іхні сынок прыносіў яду нам на працу. Такіх цудоўных людзей ніколі не выкрасліш з памяці. І толькі камсамольская сакратарка Маруся падпільноўвала нас і пела ўслед: “Помнящь псы-атаманы, помнящь польскія паны канармейскія нашы клінкі”. Выслужвалася перад начальствам, сыпала нам соль на рану.

З пачаткам вайны майстэрню мабілізавалі працаваць на абарону. Сталі шыць для арміі бялізну, ватоўкі, ватовыя штаны і інш. А ноччу завіхаліся на полі. Зімой адкопвалі з-пад снегу сцірты пшаніцы і да раніцы камбайнам малацілі. Заканчвалі малацьбу ўручную – арфавалі пшаніцу, проса. Бяссонніца і знямога валілі з ног. Але на працу беглі, як на пажар: указ ВС СССР ад 26 чэрвеня 1940 года за спазненне на 20 хвілін “шыў” турэмны тэрмін. Спазненні ўсё ж здараліся, але ў жорсткія лапы суда нікога не аддалі. Затое ў 1943 годзе ссыльным выдалі хлебныя карткі і дазволілі за 25 км ад райцэнтра пасадзіць... па вядру бульбы кожнаму.

Суполка ссыльных з Беларусі жыла надзвычай дружна: агульнае гора яднала іх. І вось перад новым 1943 годам сфатаграфаваліся сябры па нядолі на памяць. А ўжо 7 студзеня 1943 года прызвалі ў армію малодшага брата Рыгора, які 4 жніўня 1944 года загінуў у Польшчы пад Люблінам. Прапаў і бацька. Яго перад самай вайной у 1941 годзе вывезлі ў Архангельскую вобласць. На запыт аб бацьку “органы” адказалі, што ён жа даўно выехаў да сям’і ў Травянку. Чаму ж тады не даехаў? Чаму і дзе згубіўся?

Старэйшая дачка Камінскага, Тамара, у 1940 годзе была замужам, таму яе не вывезлі. Пасля вызвалення Беларусі яна стала настойліва абіваць парогі абласнога начальства, каб вызваліць сям’ю з ссылкі. І 25 снежня 1944 года Клаўдзія Сцяпанаўна з маці вярнуліся ў Порсу. Двое – з усёй сям’і... Нават ніхто і прабачэння не папрасіў за іх незаконную высылку, за знішчэнне ні ў чым невінаватага бацькі, за рабаванне іх маёмасці, за разгром сядзібы, за амаль 5 катаржных гадоў ссылкі. Не панеслі адказнасці і бессаромныя даносчыкі за хлуслівы паклёп.

У 1947 годзе Клаўдзія Сцяпанаўна выйшла замуж за Міколу Яцыну, закройшчыка Вілейскага КБА, дзе і яна працавала швачкай. Выгадавалі трох сыноў, расце пяцёра ўнукаў. У 1994 годзе выдалі ёй пасведчанне, што яна “беспадстаўна рэпрэсіраваная і ў далейшым рэабілітаваная” мае льготы...

У маладых – дзёрзкія мары аб будучым. А ў пажылых – “ільготы” на ўспаміны пра мінулае. У Клаўдзіі Сцяпанаўны і яе сяброў па няволі яно такое складанае і нялёгкае. Але катарга нядолі аблягчалася добрымі і чулымі людзьмі, пра якіх удзячную памяць яны прынясуць праз усё сваё жыццё.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**



**Людзі! Спяшайцеся рабіць адзін аднаму дабро: яно помніцца вечна. На здымку (тлумачыць Клаўдзія Сцяпанаўна) у першым радзе злева направа: Вера Калясевіч, настаўніца з Радашкавічаў; Віктар Кандратовіч, шавец з Ракава; Клаўдзія Камінская (Яцына) з Вілейкі; Бася Дворкіна, швачка з Радашкавічаў, у 1943 годзе лягла ў чужую зямлю. У другім радзе: Дворкін, работнік школы-інтэрната, брат Басі; Марыя – прозвішча забылася; Янэк Багдановіч, шавец з Герваляў Валожынскага раёна; Нота Дворкін, шавец, брат Басі; Яніна Адунец (Пяркоўская), швачка з Радашкавічаў; Стась Кандратовіч, шавец, брат Віктара; Пётрусь, загадчык гаспадаркі школы-інтэрната. У трэцім радзе: першага не памятаю прозвішча; Рафал Івашкевіч з Вілейкі.**
**– Вера Калясевіч і Рафал Нашкевіч, атрымаўшы волю, выехалі адразу ў Польшчу. А з Янінай Адунец (Пяркоўскай) сустракаліся да самай яе смерці, а цяпер – з яе дзецьмі Алай і Уладзімірам, – заключае Клаўдзія Сцяпанаўна.**

Аляксандр НАРКЕВІЧ.

# З гісторыі Вілейшчыны

**Ужо ў лістападзе 1939 года дзяржаўнай планавай камісіяй пры Савеце народных камісараў БССР была выдадзеная работа “Западная Белоруссия. Статистический справочник”, пазначаная грыфам “Для службовага карыстання”. Наклад яе быў усяго 200 асобнікаў. У ім сабраныя дадзеныя аб усіх электрастанцыях, млынах, броварах, лесапільнях, сялянскіх гаспадарках.**

Дадзеныя збіраліся вельмі хутка, а інфармацыя, якой не хапала, папросту бралася з польскай дзяржаўнай статыстыкі. Зразумела, што гэтыя звесткі не з’яўляюцца сакрэтнымі ў наш час, ды і 60 год таму наўрад ці было гэта сакрэтам – проста вельмі ўжо ў СССР з усяго любілі рабіць таямніцу.

Наша невялікая публікацыя закранае дадзеныя адносна былога Вілейскага павета. Паводле дадзеных перапісу насельніцтва 1931 года, на тэрыторыі вобласці, створанай у 1939 годзе, жыло 829 тысяч 897 чалавек. З іх гараджан – усяго 50 тысяч 253 чалавекі, вяскоўцаў – 779 тысяч 644 чалавекі. У вобласці было 10 гарадоў і 77 валасцей. Для новай улады не існавала такога тыпу населенага пункта, як мястэчка.

У самім жа Вілейскім павеце жыла 131 тысяча чалавек. Яшчэ ў 1931 годзе Вілейка (5595 жыхароў) была меншая за Маладзечна (5964 жыхары), Глыбокае (7544 жыхары), Ашмяны (7344 жыхары).

Зірнём на **стан прамысловасці** на Вілейшчыне. У Вілейскім павеце было 2 электрастанцыі. Уласна ў горадзе – гарадская агульнага выкарыстання магутнасцю 44 кВт/гадзіну і электрастанцыя ў Даўгінаве пры млыне Незабітоўскага на 10 кВт/гадз. У самой Вілейцы месціліся прадпрыемствы: млын Дубіна і Сіліцкага, разлічаны на 8 рабочых у адну змену; паравы млын Гутэрфаса і Бэатуса на 4 работнікаў, якія за 1938 год намалолі 8600 цэнтнераў мукі, і млын Эйдэльмана.

**Дрэваапрацоўка** ў Вілейцы была прадстаўлена двума прадпрыемствамі. Лесапільны завод Дубіна, разлічаны на 35 работнікаў у адну змену, лесапільны завод Эйдэльмана, прыкладна такой самай магутнасці.На гэтым пералік прадпрыемстваў у горадзе спыняецца.

У павеце працавалі бровары Бароўскага ў Лукаўцы, “Гузаган“ у маёнтку Любань, Гарадынскай у Вязыні, Раданава і Акушкі ў маёнтку Ілава, Аскеркі ў Будславе, Козел–Паклеўскага ў Боркаўшчыне. Паравая вытворчасць у павеце была прадстаўленая кардоннай фабрыкай Багдановіча ў Раёўцы. Варта прыгадаць “Хрысціянскі рабочы шкляны завод“ у Залессі (цяпер пасёлак Партызанскі), які за 1938 год вырабіў 1 мільён 773 тысячы бутэлек, і завод Альпяровіча ў Куранцы, які за 1938 год выпусціў 4500 шт. кафлі.

Характарызуючы **стан сельскай гаспадаркі** ў Вілейскім павеце, неабходна адзначыць, што ўсяго зямлі было 342 тысячы 720 гектараў, ворных 108 тысяч 610 га, садоў і агародаў – 5 тысяч 997 га. Размяркоўваючы па памерах сялянскія гаспадаркі, можна акрэсліць наступныя іх катэгорыі. 110 гаспадарак у павеце мелі зямлі больш за 50 га, і ва ўсіх іх выкарыстоўвалі працу парабкаў, а восем бядняцкіх (да 2–х га) было 2 тысячы 375. Але і тут 29 гаспадарак наймалі работнікаў.

**Пасяўныя плошчы** выкарыстоўваліся перш за ўсё пад жыта, авёс, ячмень, пшаніцу, грэчку, гарох, проса (культуры пералічаныя паводле аб’ёмаў пасеваў). З тэхнічных культур найбольш вырошчвалі лён, рапс, каноплі. Значныя плошчы засаджвалі бульбай.

**Гандаль на Вілейшчыне** быў прадстаўлены у пераважнай большасці дробным розничным продажам прадуктаў харчавання, дроў, тэкстыльных вырабаў, абутку, адзення, вырабаў са скуры і г.д. Да таго ж у павеце было 67 рэстаранаў, чайных, закусачных. Аднак толькі ў трох з іх быў дазволены продаж алкагольных напояў.

Развіццю гандлёвых сувязяў спрыяў адносна нядрэнны стан камунікацый: брукаваных гасцінцаў, чыгункі, а таксама суднаходнай часткі Віліі.

У 1939 годзе ў Вілейскім павеце было 172 пачатковых школы на 19 тысяч вучняў. У дзяржаўных школах у 1937–38 навучальным годзе працавала 284 настаўнікі. Але трэба ўлічваць, што яшчэ было 10 прыватных школ. Беларускамоўнага выкладання не было наогул.

**Медыцынскае абслугоўванне.** На ўвесь павет была адна бальніца на 60 ложкаў – змяшчалася ў Вілейцы. На Вілейшчыне працавала 16 дактароў, з іх 1 тэрапеўт, 1 хірург, 1 гінеколаг, 1 педыятр, астатнія 12 дактароў – агульнай практыкі.

Гэтыя звесткі не прэтэндуюць на вычарпальнасць і характарызуюць некаторыя бакі эканамічнага і сацыяльнага жыцця Вілейкі і павета. Але адначасова яны дазваляюць скласці ўяўленне аб стане нашага краю больш як 60 год таму.

**Анатоль СЦЕБУРАКА, студэнт гістарычнага факультэта БДУ, Вілейка.**

# Валерый застаецца адзін?

**Віляйчанін Валерый Скаражонак стаў дырэктарам «Песняроў». Гэта прызначэнне не было сустрэта ў калектыве адназначна. Многія артысты спачатку не пагадзіліся з прызначэннем новага кіраўніка ансамбля, напісаўшы пісьмо Аляксандру Лукашэнку, дзе выказвалі нязгоду з такім рашэннем. А праз некаторы час, як паведамляе інфармацыйнае агенцтва БелаПАН, 20 чалавек, а гэта не толькі тэхнічныя работнікі, падалі на імя дырэктара ансамбля заявы аб звальненні.**

«Мы напісалі заявы і проста чакаем рашэння прэзідэнта», — сказаў Л.Барткевіч. Музыкант у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН сказаў, што нават калі нічога не зменіцца, «ансамбль заўсёды будзе жыць і працаваць». Ён адзначыў, што «сёння «Песняры» вярнуліся з Масквы, дзе былі на гастролях», акрамя таго, «рыхтуюцца да выпуску два дыскі, запісваецца новыя песні і ідзе праца над відэакліпам». «У нас усё будзе як мае быць, мы проста будзем самі зарабляць на хлеб».



**Аб шчырых усмешках сёння застаецца толькі ўспамінаць. Наш зямляк Валерый Скаражонак (другі справа), стаўшы дырэктарам «Песняроў», сутыкнуўся з процістаяннем амаль усяго калектыву. Пакойны Уладзімір Мулявін (у цэнтры) таксама неадноўчы трапляў у падобныя сітуацыі. Ансамбль і пры ім некалі ўжо распаўся на два калектывы. Сёння з «Песняроў» сыходзіць Лявон Барткевіч (трэці злева). Канфліктная сітуацыя ў калектыве, здаецца, дасягнула кульмінацыі.** Фота з архіва «Рэгіянальнай газеты».

## Усяго каля месяца таму віляйчанін Валерый Скаражонак нечакана для многіх стаў новым дырэктарам пост мулявінскага дзяржаўнага ансамбля «Песняры»

**Міністр культуры Беларусі Леанід Гуляка паведаміў 9 верасня на прэс-канферэнцыі, што «такога дакумента, што ўсе звольніліся і загад падпісаны», ён не ведае.**

Галоўная ж адміністратарка "Песняроў" у сваім інтэрв'ю радыё "Свабода" Ірына Кулінковіч гаворыць:

— Мы ўсе падалі заявы і, паводле загаду, звальняемся разам з былым дырэктарам Свечкіным. Усяго — 20 чалавек: гаспадарчая частка, творчыя і адміністрацыйныя работнікі, музычны кіраўнік — усе да адзінага. Застаецца толькі Скаражонак і ягоны сябар Шарапаў, які з «Песняроў» сышоў раней і цяпер дапамагае Скаражонку змагацца супраць нас... Няхай выводзяць на сцэну трэціх «Песняроў»: не думаю, што наша краіна, Расія, замежжа гэта вытрымаюць. У ансамбль тэлефанаваў намеснік міністра Рылатка і прасіў: напрамілы бог — не звальняйцеся. Але мы яму не верым. Напярэдадні ён быў на сходзе, тлумачыў: мы прызначылі Скаражонка, бо ў яго досвед працы... Мы ў адказ: прабачце, чалавек без адукацыі, без аўтарытэту, ніводнага дня не працаваў на пасадзе кіраўніка — гэта нулявы варыянт. Той жа Свечкін адпрацаваў 11 год і, атрымліваецца, не мае досведу? Нехта цісне зверху, бо, прыкладам, ліст Барткевіча да прэзідэнта не хацелі нават рэгістраваць: казалі, што гэта ананімка, хоць там на афіцыйным бланку былі 22 подпісы. Зноў ж, нехта не хоча прапускаць нас да прэзідэнта. Я думаю, гэта Канаплёў, бо ён сябруе са Скаражонкам.

Гэтымі днямі дзяржаўны ансамбль «Песняры», па сцвярджэнні радыё "Рацыя", павінны былі расфармаваць і, далучыўшы да ўласна «Песняроў» тэатр эстрады Раінчыка, студыю «Сябры» і аб'яднанне «Белканцэрт», пераўтварыць яго ў Нацыянальны цэнтр імя Мулявіна. Аднак масавы дэмарш амбіцыйныя задумы, падобна, адкаркэтуе.

Былы ўдзельнік «Песняроў», а зараз вакаліст «Беларускіх песняроў» **Валерый Дайнэка** падобную сітуацыю адноўчы ўжо перажыў. Творчыя і асабістыя супярэчнасці сталі падставай да развітання з калектывам, дзе адпрацаваў 22 гады, яшчэ напрыканцы 90-х. Зараз Дайнэка скептычна глядзіць на магчымасць мірнага ўрэгулявання канфлікту.

— Я ведаю, што рана ці позна гэта распачнецца. Зараз яны дзеляць імя, бо сам Мулявін быў ім без розніцы — і Барткевічу, і Скаражонку, і ўсім астатнім. Цяпер яны пачынаюць дзяліць маёмасць, змагаюцца за халяўную студыю, якую мы некалі набылі. Цяпер у іх «разборкі». Выйграе той, у каго больш моцная лапа «наверсе», бо на міністэрства ціснуць, прымушаюць прызначыць кіраўніком Скаражонка. Міністр гэта робіць, хоць сам, можа, і супраць.

Нічога добрага там не будзе. Арганізуюць цэнтр, дзе музычным кіраўніком будзе Шарапаў і ягоная жонка, якія канчаткова ўсё загубяць. Ну, а хто застаўся з Барткевічам, будуць з маскоўскім адміністратарам «Арэра» ездзіць. Але ці дазволяць ім гэта? Калі ў нас назоў зарэгістраваны («Беларускія песняры»), то яны «Песнярамі» заставацца не змогуць. Цалкам народ заблытаецца, але нічога ў іх не атрымаецца, бо няма ні музыкаў, ні вакалістаў.

Насуперак песімізму Валерыя Дайнэкі, апальныя «Песняры», што адкалоліся ад дзяржаўнага ансамбля і Міністэрства культуры, рыхтавалі шляхі да адступлення загадзя. Прынамсі, ужо падрыхтаваныя дакументы на рэгістрацыю новага суб'екта музычнага гаспадарання — «ВІА «Песняры» імя Мулявіна».

Тым часам, новы дырэктар «афіцыйных» «Песняроў» Валерый Скаражонак збіраецца распачаць набор новага складу каманды, якая, падкрэслівае "Свабода", дакладна не мае ніякага дачынення да творчасці Уладзіміра Мулявіна.

**Людзі творчыя і палітыка, – гаварыў у сваім інтэрв'ю «Рэгіянальнай газеце» ў чэрвені 1997 года Валерый Скаражонак, – гэта несумяшчальна. Як грамадзянін, ты можаш галасаваць, выбіраць. Але пры чым тут музыка.**

**Валерый Скаражонак, які нарадзіўся і вырас у Вілейцы, успамінае, як на яго лёсе адбіліся палітычныя падзеі. Калі малады спявак Валерый Скаражонак рыхтаваўся выступаць у італьянскім Турыне, у Маскве выбухнуў путч. СССР распаўся. Так у Італію і не трапіў. Сённяшнія падзеі, звязаныя з пераменамі ў "Песнярах" пасля смерці легендарнага Мулявіна, нагадваюць палітыку з яе непрадказальнымі сюжэтамі. Чым закончыцца гэта гісторыя для Скаражонка, які перад трагічнай развязкай ў жыцці заснавальніка і першага кіраўніка ансамбля Уладзіміра Мулявіна быў заўсёды побач з маэстра на сцэне, ніхто не скажа.**

Іван КАСЯК.



**Творчы крызіс у "Песнярах", – гаворыць у адных з апошніх сваіх перадач радыё "Свабода", – распачаўся яшчэ пры Уладзіміры Мулявіне. Новых альбомаў не з'яўлялася, затое рэгулярна ўсчыналіся скандалы з расколамі ў калектыве, з прэтэнзіямі на адрасную дзяржаўную падтрымку, з узаемнымі скаргамі. Яшчэ больш супярэчнасці абвастрыліся, калі Мулявіна не стала.**

**Калі Міністэрства культуры прызначыла кіраўніком песняроўскай гаспадаркі вакаліста Валерыя Скаражонка, які ў «Песняры» прыйшоў апошнім, усе астатнія адрэагавалі хваравіта. Апошні раз Мулявін быў у нашым рэгіёне ў Маладзечне ў 2001 годзе на фестывалі нацыянальнай песні і паэзіі. У некаторых маладзечанцаў засталіся яго аўтографы.**

Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

# Сельскі доктар

**ВІЛЕЙКА. Ёсць такая прафесія – лячыць людзей. Доктар Касцяневіцкай сельскай бальніцы Сяргей Іванавіч Балкоўскі прысвяціў ёй 32 гады жыцця.**

За гэты час даводзілася лячыць не адно пакаленне жыхароў навакольных вёсак. Памятае ўсіх: і Міронаўну з Геркаў, і Антаніну з Даўгінава. Людзі вераць, што доктар Балкоўскі паставіць іх на ногі, таму ідуць адразу ў бальніцу, абмінаючы амбулаторыю. А калі яго на 2 гады перавялі працаваць у Ілью, то і наогул нейкі час ездзілі туды.

Не мной заўважана, што Сяргей Іванавіч не толькі класны спецыяліст, але і дбайны гаспадарнік. Зімой у палатах цёпла і ўтульна, круглы год хворых добра кормяць. Як кажуць самі пацыенты: «Не трэба нават з дому браць ежу». Доктар шкадуе сваіх пацыентаў, але яго магчымасці абмежаваныя. Бывае, паставіць дыягназ, назначыць лячэнне, а пасля на асобным лісціку піша, якія лекі, медыцынскія інструменты патрэбны, бо іх у бальніцы няма. І ідуць бабулькі ў аптэку купляць шпрыцы і сістэмы.

На людзей Балкоўскі не скардзіцца. Пацыенты бываюць розныя, але ён стараецца зразумець усіх. Хаця не так даўно на так званых «сацыяльных ложках» ляжалі 2 былыя зэкі. У персанала засталіся жахлівыя ўспаміны. Гэтыя мужчыны вытваралі, што хацелі: шумелі, курылі ў палаце, там жа ж спраўлялі фізіялагічныя патрэбы. Іх перавялі ў інтэрнат для былых зняволеных у Клецкім раёне, а сцены ў палаце так і не здолелі адмыць ад куродыму і матрацы выкінулі.

Як ва ўсіх установах аховы здароўя, вялікая праблема – недахоп грошай. Сёлета ў бальніцы рабілі рамонт. Сяргей Іванавіч сам пайшоў па хатах прасіць грошы ў касцяневічаў. Але прайшоў толькі 8 двароў, а пасля папрасіў медсясцёр і санітарак замяніць яго. «Гэта ж спіцца можна за два тыдні! – гаворыць ён. – Заходзіш у хату, расказваеш пра рамонт, бабка дае з пенсіі 5 тысяч і абавязкова частуе: ставіць самагон, закуску. Ніякага здароўя не хопіць». Але менавіта такім чынам назбіралі крыху больш за 1,5 мільёна рублёў. Падфарбавалі будынак бальніцы, правялі касметычны рамонт палат, зрабілі плот, дзве альтанкі... і грошы скончыліся. Усё вельмі дорага. Наёмныя работнікі прасілі за выраб альтанак 100 тысяч рублёў, доктар дамовіўся за 75 тысяч.

Гэты немалады ўжо чалавек ніколі не хваляваўся за сваё здароўе, але апошнім часам стаў непакоіцца: "Да пенсіі не дажыву – ногі зламаю". Справа ў тым, што сельсавет плаціць за вулічнае асвятленне, таму адключае на ноч ліхтар каля бальніцы. Цёмна, хоць вока выкалі. Не відаць, дзе тут бальніца, а дзе дом доктара. Аднойчы ноччу да Балкоўскага прыбег мужчына і паклікаў да хворага дзіцяці. Здаецца ж, за 32 гады чалавек ужо вывучыў двор на памяць. Але выбег і ўрэзаўся ў клён, Добра, што лоб не разбіў, доўга хадзіў з шышкай.

Хутка Сяргей Іванавіч пойдзе на пенсію. Але абяцае, што па-ранейшым будзе дапамагаць людзям.

Святлана ЦІШКО.

# У вызваленай Заходняй Беларусі



17 верасня 1939 года. Жыхарка Маладзечна дорыць шаблю камандзірам Чырвонай Арміі.

Фота з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея.




На мітынгу-дэманстрацыі ў гонар уз'яднання Заходняй Беларусі з СССР.

Фота з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

Такім чынам, да канца 1939 года нацыяналізацыя зямлі і прамысловых прадпрыемстваў у асноўным была праведзеная. Бедныя сяляне, нарэшце, атрымалі зямлю, коней, кароў і іншую гаспадарчую жывёлу.

## Улік і кантроль

Але яшчэ 12 кастрычніка 1939 г., за два з паловай тыдні да выхаду пастановы аб нацыяналізацыі памешчыцкай зямлі і яе гаспадаркі ў Маскве Саветам Народных Камісараў СССР прымаецца пастанова "Аб усеагульным перапісу жывёлы на стане на 1 студзеня 1940 г." На фоне ўсеагульнай бальшавіцкай эйфарыі мала хто з сялян тады звярнуў на яе ўвагу. Падобнае было і пры Польшчы, з той розніцай, што польскія чыноўнікі былі больш ліберальныя і іх лягчэй можна было падмануць. А тым часам агульныя прынцыпы сацыялізму — улік і кантроль — з боку новай улады ўсё глыбей урасталі ў быт сялян. Вельмі многае з таго, што яшчэ зусім нядаўна належала польскім памешчыкам і так заўзята было падзелена паміж сялянскай беднатой, новая ўлада ўжо падлічвала ў якасці свайго будучага прыбытку. Калі пры польскай уладзе адна карова і адзін конь у гаспадарцы падаткам не абкладаліся, то пры бальшавіках такога ўжо больш не стала.

Багацце Заходняй Беларусі вабіла да сябе паўгалодныя калгасна-саўгасныя саветы. Але заклікі насельніцтва да здачы прадуктаў у нарыхтоўчыя і гандлёвыя арганізацыі былі не вельмі прывабнымі для мясцовага насельніцтва, бо прапаноўвалася весці яе па фіксаваных цэнах, якія былі значна ніжэй рынкавых. У той час у Заходняй Беларусі былі аднагасова дзве валюты: савецкія рублі і польскія злотыя. Іх суадносіны былі ўстаноўлены ўладай далёка не на карысць апошніх. Таму ўсе цэны, якія былі вызначаны ўладай у рублях, былі значна ніжэй іх рыначнага кошту. У гэткім становішчы ўлады зразумелі, што салодкія словы аб патрыятызме і пралетарскім інтэрнацыяналізме не даюць станоўчых вынікаў. Пасля неаднаразовых папярэджанняў з боку гандлёвага аддзела аб наладжванні продажу тавараў у прыватных магазінах і аб забароне павышэння цэн асобныя гандляры гэтага ўказання не прытрымліваліся. Напрыклад, гаспадар лаўкі скуранога тавару у мястэчку Куранец Майзель схаваў і не прадаў тавару на суму 2578 рублёў. Па рашэнні Часовага ўпраўлення гэты тавар быў канфіскаваны і перададзены ў распараджэнне гандлёвага аддзела.

## Эканамічныя рэформы

Калі чытаеш гэтыя радкі, прыпамінаюцца словы з палымяных прамоў сялян Заходняй Беларусі аб тым, як жорстка і бесчалавечна штрафавалі польскія ўлады сялян за любыя спробы апошніх пасягнуць на ўласнасць мясцовых гаспадароў: штрафавалі і па 1 і па 10 злотых (за несанкцыянаваны збор грыбоў і ягад у прыватным лесе ці выпас хатняй жывёлы на панскіх палях), у залежнасці ад прычыненай шкоды. Усё пазнаецца ў параўнанні: калі ўжо пры савецкай уладзе гаспадар галантарэйна-аптэкарскага магазіна Рудэнскі (г. Вілейка) спрабаваў схаваць тавар і павышаў на яго цэны, то ўлады аштрафавалі яго на 7000 рублёў.

Пасля такіх дзеянняў з боку мясцовага кіравання пытанні аб нарыхтоўцы прадуктаў, павышэнні на іх цэн у перыядычных выданнях больш ужо не ўзнікалі. Сяляне пачалі здаваць сельскагаспадарчую прадукцыю ў нарыхтоўчыя і гандлёвыя арганізацыі па фіксаваных цэнах, а гаспадары прыватных лавак больш не завышалі цэны на свой тавар.

## Рэформа адукацыі

Разам з эканамічнымі пераменамі пачалося будаўніцтва новага жыцця па ўсёй краіне. Першымі, хто адчуў змены, былі школы і настаўнікі, якія там працавалі. У школьнай праграме спачатку было адменена вывучэнне гісторыі Польшчы, польскай літаратуры і катэхізіс. Пачалося ўводзіцца выкладанне прадметаў на беларускай мове. Акрамя гэтага, усюды, дзе было магчыма, пачалі арганізоўваць курсы па вывучэнні рускай мовы. Так, ужо 20 лістапада ў Даўгінаўскай пачатковай школе было арганізавана вывучэнне рускай мовы з вучнямі старэйшых класаў і моладдзю мястэчка. Гэтыя курсы наведвала звыш 150 чалавек. Заняткі праходзілі вечарам. Да прыходу рускіх войск у Заходнюю Беларусь у Даўгінаве былі дзве пачатковыя школы. Большасць моладзі, закончыўшы вучобу ў іх, не прадаўжала навучанне ў вышэйшых установах. Гімназія для дзяцей сялян і працоўных мястэчка была недаступнай. Пасля 17 верасня ў мястэчку адкрылася сярэдняя школа.

## Ліквідацыя непісьменнасці

У вёсцы Ілішчавічы былі арганізаваны першапачатковыя вячэрнія курсы для дарослых. Іх наведвалі 82 непісьменных жыхары навакольных вёсак.

Асноўная задача працы школ заключалася ў тым, каб усіх дзяцей адпаведнага ўзросту ахапіць адукацыяй. У Вілейскі павет былі накіраваны 133 беспрацоўныя ў якасці настаўнікаў. Па плану на 1940 год намячалася па Вілейскай вобласці давесці лік пачатковых школ да 1270 замест існаваўшых раней 1032. Лік поўных сярэдніх школ давесці да 20 замест 9 існаваўшых да 1-га верасня 1939 г. Прапаганда савецкай уладай новага сацыялістычнага ладу жыцця была галоўным накірункам працы не толькі школы, але і ўсіх культурна-асветніцкіх устаноў. На гэтыя мэты ўлада не шкадавала ні народных сродкаў, ні сіл працоўных. У цэнтры калгаса "Чырвоная зорка" (Любанскі р-н) быў пабудаваны калгасны клуб з залай на 400 месц. Будаваліся хаты-чытальні.

## Медыцына

Да прыходу Чырвонай Арміі на Вілейскі павет былі толькі адзін шпіталь на 60 ложкаў і ўрачэбны ўчастак, які абслугоўваў амбулаторнай дапамогай насельніцтва Вілейкі і большасць валасцей. У штаце былі два доктары і адна акушэрка. Пры такім становішчы польскія ўлады пачалі будаўніцтва 3-павярховага мураванага будынка для шпіталя. У ім планавалася правесці водаправод, зрабіць цэнтральнае ацяпленне. Абсталяваць пры шпіталі механічную пральню. Будынак быў разлічаны больш чым на 100 ложкаў. Зараз цяжка дакладна вызначыць, колькі было зроблена польскімі ўладамі да прыходу Чырвонай Арміі. Але вядома, што вельмі многа, бо ўжо ў пачатку снежня новая ўлада ў перыядычных выданнях пахвалялася сваімі дасягненнямі і дакладвала аб тым, што шпіталь хутка пачне працаваць. Вядома ж, і ўсе лаўры, і пашаны за дасягненне ў галіне аховы здароўя працоўных дасталіся ёй.

За два месяцы па Вілейскім павеце было адкрыта 16 медыцынскіх пунктаў. Адкрыта паліклініка, 5 фельчарскіх пунктаў, медпункт, два ўрачэбныя ўчасткі, тры трахаматозныя пункты. Рыхтаваліся да адкрыцця ўчастковыя бальніцы ў Даўгінаве і Касцяневічах.

Не мінулі перамены і ў назвах вуліц і плошчаў. Рашэннем павятовага Часовага Упраўлення ад 24.11.1939 г. вуліцы ў горадзе Вілейка былі перайменаваны наступным чынам: "11 лістапада" ў "17 Верасня", "Каляёвая" ў "Чыгуначную", "Пілсудскага" ў "Савецкую", "Георгіеўская" ў "Вадап'янава" – усяго было перайменавана 20 вуліц і плошчаў.

## Савецкія абмежаванні

У пачатку зімы, пад прыкрыццём прапагандысцкай лухты, згодна з дамоўленасцю паміж Молатавым і Рыбентропам, Савецкі Саюз пачаў захопніцкую вайну супраць Фінляндыі. Каб насельніцтва не мела магчымасці атрымліваць праўдзівую інфармацыю аб баявых дзеяннях з другіх крыніц, была праведзена рэгістрацыя ўсіх радыёпрыёмнікаў горада Вілейкі і вобласці. Усім уласнікам прыёмнікаў прапанавалася зарэгістраваць іх у абласным радыёкамітэце па адрасе: вул. 17 Верасня, дом 42. Апошні тэрмін рэгістрацыі быў назначаны 13 снежня 1939 года. Пасля гэтага ў хуткім часе ўсе радыёпрыёмнікі, якія маглі прымаць перадачы з замежжа, былі ў абавязковым парадку "часова" здадзены насельніцтвам.

Дзеля таго, каб людзі не так вольна, як пры Польшчы, блукалі па краіне ў пошуках "блакітнай птушкі" і больш працавалі, і наогул, каб абмежаваць любыя паездкі людзей па краіне і ўвесці дакладны ўлік грамадзян, абласным часовым упраўленнем ад 22.11.1939 года прымаецца пастанова аб абавязковай рэгістрацыі ўсіх прыбыўшых на тэрыторыю Вілейкай вобласці ў органах міліцыі. Усе тыя, хто выбываў з Вілейкай вобласці, таксама павінны былі з'яўляцца ў міліцыю для атрымання адзнакі аб выбыцці. Але ж самым памятным для народа Заходняй Беларусі з усіх новаўвядзенняў быў, мабыць, "прэзент" ад улады напярэдадні каталіцкага Божага нараджэння. І 20 снежня 1939 года ва ўсіх газетах было надрукавана паведамленне Дзяржаўнага банка СССР аб тым, што ўсе разлікі дзяржаўных і кааператыўных прадпрыемстваў і ўстаноў пераводзяцца з 21 снежня на савецкую валюту. Грошы мяняліся ў суадносінах 1:1. Па бягучых рахунках, якія належалі прыватным прадпрыемствам і прыватным асобам, у злотых, выплата ў савецкіх рублях праводзілася ў межах рэшты рахунка, але не больш за 300 злотых. Астатак звыш 300 злотых уладальнікам рахункаў у савецкай валюце не выплачваўся. Такім чынам, людзі, што мелі 300 злотых, за якія раней можна было купіць 1 гектар не вельмі добрай зямлі, атрымалі савецкія рублі, вартыя 4-5 кілаграмаў дражджэй на "чорным рынку"!

Так, пад прыкрыццём самай дэмакратычнай у свеце канстытуцыі, пасля "перніка" паступова, амаль непрыкметна гатаваўся "бізун" для насельніцтва Заходняй Беларусі. Але гэта ўжо іншая і вельмі сумная гісторыя.

Сцяфан ПЛАВІНСКІ.

■ ФУТБОЛ, ЗБОРНЫЯ

# Перамога «маладзёжкі»

**На мінулым тыдні прайшлі чарговыя матчы адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы 2004 года.**



Ля мяча Павел Бяганскі (на здымку злева)

Фота з Інтэрнэт-архіва

Безумоўна, прыезд у нашую краіну нацыянальнай і маладзёжнай зборных Чэхіі прыцягнуў увагу сапраўдных футбольных заўзятараў, і не толькі. З турнірнага пункту гледжання значна большую цікавасць выклікала сустрэча маладзёжных каманд, бо падапечныя Юрыя Пунтуса яшчэ не страцілі шанцаў прабіцца ў асноўную частку чэмпіянату Еўропы і на Алімпіяду.

Беларусы сапраўды прадэманстравалі на гарадскім стадыёне Барысава добрую гульню. Амаль на працягу ўсяго матча валодалі ініцыятывай і ўжо ў першым тайме маглі дасягнуць поспеху Глеб, якога вярнулі ў «малодшую» каманду для ўзмацнення, Калачоў ды Бяганскі. Дарэчы, ураджэнец Вілейскага раёна правёў, мабыць, свой лепшы матч у сезоне. Павел быў адным з самых актыўных у складзе нашай каманды, часта прапаноўваў сябе партнёрам, а месцамі і сам выдаваў нядрэнныя перадачы, што ў чэмпіянаце краіны за ім заўважаецца вельмі рэдка. Але ўсё ж такі галоўнай дзеючай асобай на полі быў прызнаны лідэр зборнай Глеб, які адзін трымаў увесь цэнтр. Неблагую гульню паказаў і ўраджэнец Смаргоні Попель, які таксама дзейнічаў у цэнтральнай зоне, ды выдзяляліся флангавыя паўабаронцы Калачоў і Сучкоў. Менавіта на флангу ў другім тайме на 77-й хвіліне і нарадзілася адзіная галявая атака. Абаронца Панкавец злева абыграў двух сапернікаў і выдаў выдатную перадачу на Ражкова, у якога, на шчасце, замест удару атрымаўся прастрэл на далёкую штангу, дзе Калачоў пераправіў мяч у вароты. Найцяжэйшая перамога беларусаў, дзякуючы якой яны забяспечылі сабе "паўпрахадное" другое месца ў групе і зраўняліся па ачках з лідэрам зборнай Чэхіі, што, праўда, мае яшчэ гульню ў запасе.

## Недвед і астатнія

Абноўленай нацыянальнай зборнай, акрамя асабістага аўтарытэту, губляць было няма чаго. Пачатак гульні здзівіў. Беларусы першыя хвілін 20 не толькі не саступалі чэшскім зоркам сусветнага футбола, а нават пераўзышлі Недведа і кампанію. Таму выглядаў дастаткова лагічна мяч, забіты ў пачатку гульні Булыгам, які праводзіў свой дэбютны матч у галоўнай камандзе краіны. Віталь згуляў у «сценку» са сваім цёзкам Кутузавым, выйшаў адзін на адзін з галкіперам сапернікаў і дакладна прабіў у далёкі кут.

На жаль, сустрэча складаецца не з 20 хвілін... А ў наступныя 70 хвілін на полі гуляла адна каманда – зборная Чэхіі. Ужо да перапынку госці здолелі аднавіць раўнавагу. Беларусы аказалі капітану чэхаў Недведу вельмі добрую паслугу, сфаліўшы амаль па цэнтры ў 24 метрах ад варот Туміловіча. Напэўна, лепшы на гэты момант футбаліст свету выканаў удар са штрафнога бездакорна: ён накіраваў мяч вакол сценкі ў самую «дзевятку».

А ў другім тайме чэхі на класе давялі гульню да патрэбнага ім выніку: Бараш і Шміцэр яшчэ па разу засмуцілі Туміловіча.

Што ж, аб'ектыўна мы слабейшыя... І яшчэ... Глеб, стомлены найцяжэйшай гульнёй напярэдадні, з'явіўся на полі ў другой палове, але дэманстраваў проста цудоўную тэхніку і кантроль мяча.

## Каментарый чэшскіх зорак

**Павел Недвед:**
**«Сам ажно не чакаў».**

**– Павел, Ваша думка наконт матча супраць Беларусі?**

– Сустрэча склалася вельмі цяжка для нашай зборнай. Я нават не думаў, што беларусы здольны дэманстраваць настолькі добрую гульню. Добра, што ў першым тайме нам усё ж такі давялося забіць гол. Дарэчы, я не чакаў, што ў мяне атрымаецца галявы ўдар. Па праўдзе кажучы, да гульні адчуваў сябе дрэнна, таму я не верыў, што ў такім стане здольны паказаць добрую гульню. А забіць мне ўвогуле здавалася немагчымым.

**– Аднак галоўнае, што чэшская зборная дасягнула патрэбнага выніку?**

– Так, сёння мы менш за ўсё клапаціліся аб прыгажосці футбола. Нам патрэбны былі тры ачкі, і мы дасягнулі перамогі. Гэта галоўнае.

**Томаш Расіцкі:**
**«Глеб лепшы ў "Штутгарце».**

**– Томаш, чаму вашай камандзе так цяжка даўся першы тайм?**

– Беларуская зборная нечакана ў пачатку гульні проста перайгравала нас. А пасля гола Булыгі ў мяне ўвогуле пачалі з'яўляцца думкі аб паражэнні, я ўжо быў гатовы, як кажуць, памахаць чэмпіянату Еўропы рукой. Аднак гол нашага капітана Недведа зноў вярнуў упэўненасць, і пасля перапынку мы «зрабілі» беларусаў.

**– Вы гуляеце ў бундэслізе, у нашым складзе таксама быў прадстаўнік мацнейшага нямецкага дывізіёна Аляксандр Глеб. Калі ласка, параўнайце яго выступленне за нацыянальную каманду і клуб "Штутгарт".**

– Ведаеце, Глеб з'явіўся толькі ў другім тайме ў гульні супраць нас, таму нічога канкрэтнага сказаць не магу. Аднак, несумненна, ён быў лепшым у складзе беларусаў. Што тычыцца выступленняў Аляксандра за яго каманду ў бундэслізе, то ён – душа "Штутгарта" і яго лепшы гулец. Не дарэмна летась Глеб увайшоў у тройку найбольш выдатных футбалістаў чэмпіянату Германіі.

**Аляксандр ВАНКОВІЧ.**

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

## Радуюць поспехамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Па шматгадовай традыцыі выхаванцы гарадской ДЮСШ пры аддзеле па ФКСіТ прадстаўлялі Беларусь на прэстыжным турніры ў нямецкім горадзе Грайсвальд.**

Акрамя мясцовых каманд, таксама былі госці з Літвы, Польшчы, Фінляндыі, Швецыі. Нашы землякі занялі шостае агульнакаманднае месца. Ездзілі дзевяць чалавек. Сярод старэйшых (1983-86 г.н.) вызначыўся Сяргей Трубач – перамога ў катэгорыі да 74 кг. На рахунку малодшых (1987-89 г.н.) чатыры прызавыя месцы. Перамаглі Аляксандр Забагонскі (63 кг) і Раман Багданёнак (69 кг), другім стаў Кірыл Жукоўскі (58 кг), трэцім – Дзяніс Захараў (46 кг). Паездка адбылася дзякуючы бацькам юных спартсменаў Анатолю Барбашынскаму і Уладзіміру Міцкевічу.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Гульня спадабалася

**Смаргонь – Лакаматыў (Віцебск) 1:2 (0:0). 7 верасня. 3000 гледачоў. Суддзя Чабыкін. Галы: Загавалка (87-аўтагол); Пацко (62), Баранок (81).**

Склад: 1.Хіманыч – 4.Курак, 2.Сінічын, 3.Судзін (17.Шырабокаў,78), 5.Трындзюк – 6.Тарасаў, 9.Дзігілевіч, 10.Карасёў (кап), 8.Кукалевіч (15.Гірко,41) – 7.Кухлей, 11.Кітурка (18.Валовік,46).

З абодвух бакоў ішла цудоўная, па мерках першай лігі, гульня. Каманды радавалі балельшчыкаў узаемнымі атакамі, хуткімі,тэхнічнымі дзеяннямі. Гаспадары да перапынку запомніліся выхадам Кітуркі сам-насам з галкіперам, які парыраваў удар нападаючага, і двума моцнымі далёкімі стрэламі Карасёва. Капітан наогул быў лепшым на полі ў смаргонцаў, хаця ў гэты вечар пахвалы дастойна ўся каманда.

Пасля розыгрышу штрафнога на левым краі ў далёкі верхні кут прабіў Пацко (0:1). Праз хвіліну атака гаспадароў прывяла да падачы Тарасава з правага фланга ў цэнтр, дзе Валовік ва ўпор расстраляў вароты. Аднак гол не быў залічаны, бо бакавы суддзя "запаліў" афсайд, што выклікала хвалю абурэння футбалістаў "Смаргоні" і іх прыхільнікаў.

Пасля падачы вуглавога справа Баранок, знаходзячыся на далёкай штанзе, трапна прабіў галавою (0:2). Гаспадары не спынілі свае атакі, падчас адной з якіх абаронца "Лакаматыва" няўдала сустрэўся з мячом: ад яго галавы прадмет гульні па нечаканай траекторыі заляцеў у вароты (1:2).

**07.09. Ліда – Пінск-900 3:1, Тарпеда-Кадзіна – Ведрыч-97 0:3.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | МТЗ-РІПА | 48 |
| 2. | Лакаматыў (В) | 48 |
| 3. | ЗЛіН | 40 |
| 4. | Граніт | 40 |
| 5. | Ведрыч-97 | 39 |
| 6. | Смаргонь | 35 |
| 7. | Ліда | 35 |
| 8. | Хімік | 31 |
| 9. | Камунальнік | 30 |

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

**Табло**

■ ФУТБОЛ, ВЫНІКІ

**7 верасня. Камунальнік (Жлобін) – Забудова 1:0. Гол: (50).**

Кантрольны матч. 9 верасня. Мінск.

**Маладзечна-2000 – Белшына (Бабруйск) 1:6 (0:4). Гол: Вышынскі.**

Каманда СКЗ-ДЮСШ-2 (Смаргонь) правяла яшчэ некалькі матчаў у чэмпіянаце вобласці: супраць "Нівы" (Дзятлава) 0:0 на выездзе, "Ваўкавыска" 3:4 дома і "Праменя" (Гродна) 1:0 на выездзе. Набралі 27 ачкоў, займаюць пятае месца.

■ КОНКУРС

**Па прапанове вядучага прэтэндэнты на перамогу ў другім туры Мікалай Кіндра і Павел Сярпейка даслалі свае прагнозы на трэці тур, не стаўшы чакаць апошняга тэрміну, каб мы маглі надрукаваць іх ужо сёння і з цікавасцю пасачыць за гэтым "паміжсабойчыкам" ў рэжыме рэальнага часу.**

Зорка-ВА-БДУ – Маладзечна-2000 (М.К. – 1:0; П.С. – 1:1).

Дынама (М) – Славія (М.К. – 2:0; П.С. – 3:0).

Ведрыч-97 – Смаргонь (М.К. – 1:1; П.С. – 2:1).

Дынама (К) – Лакаматыў (М.К. – 2:1; П.С. – 0:0).

Арсенал – Інтэр (М.К. – 2:1; П.С. – 1:1).

**Анонс**

**13 верасня. Ведрыч-97 (Рэчыца) – Смаргонь.**
+2=0-1 3-2. У першым крузе 0:1 дома.
**13 верасня. РВАР (Мінск) – Забудова.**
+3=3-5 6-11. У першым крузе 0:2 дома.
5 месца, 39 ачкоў – 8 месца, 23 ачкі.
**14 верасня. Зорка-ВА-БДУ (Мінск) – Маладзечна-2000.**
+1=2-0 3-2. У першым крузе 1:1 (Кухлей) дома.

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

# Капцюх зноў атрымаў бронзу

**На чэмпіянаце свету ў Парыжы беларускія спартсмены выступілі бліскуча і занялі па якасці медалёў чацвёртае агульнакаманднае месца (3 золаты, 1 серабро, 3 бронзы) пасля ЗША, Расіі і Эфіопіі.**

Важкі ўклад у скарбонку каштоўных металаў унёс ураджэнец Маладзечна кідальнік дыску Васіль Капцюх. Нагадаем, ён раней быў бронзавым прызёрам чэмпіянату свету 1995 года і Алімпійскіх гульняў 1996 года. Зараз 36-гадовы атлет фінішаваў на трэцяй пазіцыі. Ён паказаў свой лепшы ў бягучым сезоне вынік 66 м 51 см. Дарэчы, асабісты рэкорд Васіля 67,59. Перамог у Парыжы літовец Віргіліус Алекна (69,69).

Зараз Капцюх з'яўляецца лідэрам у айчынным кіданні дыску, бо сярэбраны прызёр ЧС-95 і АГ-96 Уладзімір Дуброўшчык цяпер не выступае.

## Бегалі ў Маскве

Па выніках рэспубліканскіх стартаў клуб аматараў бегу "Рэгіён" атрымаў права прадстаўляць нашу краіну ў Еўрапейскім жаночым клубным чэмпіянаце па бегу па шашы на 15 км. Гэтыя традыцыйныя спаборніцтвы 6 верасня сабралі 10 клубаў з розных краін кантынента. Выніковы залік браўся па трох лепшых спартсменках, прычым падводзілася сума занятых месцаў, а не паказанага часу. Тройку прызёраў склалі расійскі "Луч" і партугальскія "Маратона" і "Брага". Беларускі занялі шостае месца, што лепш за вынікі мінулых гадоў.

Разам з кіраўніком Аляксандрам Кавалёвым ездзілі ўраджэнка Маладзечанскага раёна Аксана Васілеўская, а таксама Анастасія Падалінская з Мінскага раёна і Галіна Кавалёва з Маладзечна. З 39 удзельніц яны занялі адпаведна 9, 17 і 19 месцы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем **Булаву Юрыя Міхайлавіча** з днём нараджэння! Жадаем кахання, грошай і добрага настрою. *Турысты турклуба "Пілігрым".*

Віншуем **Кажура Галіну Вячаславаўну** з днём нараджэння. Шчасця, здароўя, доўгага жыцця, удачы табе ўсюды і ва ўсім. *Ірына і Мікалай Бондары.*

Віншуем **Сянько Аляксея Сцяпанавіча** з 55-годдзем! Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, доўгіх год жыцця. *Жонка, сын, дачка, зяць і ўнучка.*

Віншуем **калектыў рэдакцыі "Маладзечанскай газеты"** з юбілейным нумарам! Поспехаў у працы і добрага настрою! *Калектыў аддзела падпіскі.*

## Кінатэатр «Радзіма»



**12-14 верасня. "Тэрмінатар-3: паўстанне машын"**, ЗША, прэм'ера – у 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.

**15-21 верасня** (акрамя 18 верасня). **"Анастасія Слуцкая"**, Беларусьфільм – у 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.

**18 верасня. "Матрыца: перазагрузка"** – у 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.

### Для дзяцей

**13, 14 верасня. "Дзеці шпіёнаў-2"**, прыгоды – у 13.00.

Дыскатэка: для малодшых школьнікаў – у нядзелю ў 15.00, для школьнікаў старэйшых класаў – у суботу ў 18.00, для моладзі – у пятніцу і суботу ў 21.00.

Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.



# ЗНАЁМСТВЫ

Забяспечаны мужчына 53/160 будзе вельмі ўдзячны той, якая пазбавіць яго ад адзіноты. А восень ужо хутка. Маладзечна-4, п/п МС 0365322.

Прыемная жанчына 33/165/60 пазнаёміцца з мужчынай для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п ВН 0048818.

Сімпатычная жанчына 41/167/74 пазнаёміцца з сур'ёзным і самастойным мужчынам ад 40 да 47 год. З МПВ прашу не турбаваць! Маладзечна-7, д/в МС 0274115.

Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з жанчынай да 45 гадоў, можна з дзіцем. Рыгор 40/186/72. Маладзечна-6, п/п МС 0272060.

■ КОНКУРС

# Мая Беларусь

**Паважаныя сябры "Рэгіянальнай газеты"! Прыемна адзначыць, што конкурс "Мая Беларусь" выклікаў сярод многіх з вас вялікую цікавасць. Аб гэтым засведчыла больш за 50 удзельнікаў, і аб гэтым можна было прачытаць у лістах, якія мы атрымалі разам з адказамі на пытанні віктарыны. Можна сказаць, што былі яны на самы розны густ і самай рознай ступені складанасці.**

Хаця гэта, безумоўна, залежыць ад кожнага канкрэтнага чалавека. Напрыклад, Аляксею Прэдку з вёскі Камарова (Мядзельскі раён) у першым туры спадабалася пытанне пад № 5. "Я часта бываю ў лесе, але ніколі не задаваў сабе пытанне: "Якое ж дрэва самае распаўсюджанае?" – напісаў Аляксей. А вось маладзечанку Тэрэзу Лужынскую "дастала" пытанне пад №3 (гэта ўжо другі тур). Каля дзесяці кніг прыйшлося прагледзець Тэрэзе, каб знайсці адказ на яго. І настойлівасць дапамагла ёй даведацца, што расійскую царыцу Кацярыну 1, ураджэнку Віцебскага павета, раней звалі Марта.

Што ж, дзякуй усім, хто даслаў у рэдакцыю свае адказы і пісьмы. Зараз надышоў час падводзіць канчатковыя вынікі конкурсу "Мая Беларусь". Але спачатку адзначым пераможцаў трэцяга тура. Крыху недакладна на пытанне №6 (пра вяртлявую чаротаўку) адказалі Станіслаў Ярашэвіч з вёскі Варняны Астравецкага раёна і Марыя Васілеўская з Маладзечна, таму ў суме яны набралі па 11 балаў. А вось правільныя адказы на ўсе пытанні тура нам даслалі смаргонцы Уладзімір Прычах і Мікалай Кіндра, а таксама маладзечанцы Анатоль Шпілеўскі, Яўген Уласавец і Людміла Мельнічэнка. З іх тры апошнія ўдзельнікі акрамя 12 балаў зарабілі яшчэ і па дадатковым балу. Дарэчы, на гэты раз лепшымі пытаннямі тура прызнаны №2 і №6, за іх "прагаласавала" роўная колькасць удзельнікаў.

Такім чынам, па суме ўсіх трох тураў віктарыны лепшы вынік, набраўшы 24 балы, паказалі **Мікалай Мікалаевіч Кіндра, Людміла Баляславаўна Мельнічэнка, Уладзімір Уладзіміравіч Прычах, Яўген Вячаслававіч Уласавец і Анатоль Мікалаевіч Шпілеўскі**. Згодна з нашай умовай, перавагу маюць **Людміла Мельнічэнка** і **Яўген Уласавец**, якія атрымалі па 2 дадатковыя балы. Шчаслівчык вызначыўся з дапамогай жарабя – гэта маладзечанка **Людміла Мельнічэнка**. Ёй будзе ўручаны галоўны прыз – фотаальбом Сяргея Плыткевіча з аўтографам аўтара. Астатнія пераможцы атрымаюць сувенірныя паштоўкі. За актыўны ўдзел таксама будуць адзначаны **Марыя Мяленцеўна Васілеўская** і **Станіслаў Станіслававіч Ярашэвіч** (яны набралі па 23 балы), а за волю да перамогі – юныя віляйчанкі **Анастасія Крачкоўская** і **Юлія Шабан**.

Яшчэ раз дзякуй усім за ўдзел у віктарыне. Заставайцеся з "РГ" і надалей, бо неўзабаве вас чакаюць новыя конкурсы.



Конкурс вядзе Мікола ЛІПСКІ.

■ АНОНС

## «Анастасія Слуцкая» — у Маладзечне

Толькі шэсць дзён, з 15 па 21 верасня, у кінатэатры "Радзіма" будзе дэманстравацца новы беларускі суперблокбастэр "Анастасія Слуцкая".

Фільм раскажа пра княжну Анастасію Слуцкую, якая жыла ў пачатку XVI стагоддзя і мужна змагалася з набегамі татар.

Гэта яркая, захапляльная гісторыя яе жыцця, гісторыя яе подзвігу, незвычайная легенда аб яе каханні.

На ролю Анастасіі Слуцкай была запрошана артыстка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Святлана Зелянкоўская, якая стварыла на экране пераканаўчы, паўнакроўны вобраз галоўнай гераіні. У іншых ролях заняты Генадзь Давыдзька, Анатоль Кот, Сяргей Глушко, Вераніка Круглова, Святлана Бароўская, Юозас Будрайціс, Пётр Юрчанкоў, Генадзь Гарбук, Аляксандр Бяспалы і іншыя.

Работа айчынных кінематаграфістаў вартая ўвагі, тым больш, што беларускі глядач не спешчаны добрымі фільмамі. Чакаем вас на свята кіно!

**Алена ПАСКАЛЬ, метадыст кінатэатра "Радзіма".**

■ ЗДАРЭННІ

## «Псеўдатэрарыст»

МІНСК. 8 верасня ў 22 гадзіны 20 хвілін па тэлефоне спецыяльнай лініі "02" патэлефанаваў невядомы і паведаміў, што на станцыі метро "Пушкінская" закладзена выбуховая прылада. Падчас праверкі комплексу мерапрыемстваў прыстасаванне не знайшлі. Праход пасажыраў быў закрыты з 22.40 да 01.10.

**БелаПАН.**

■ ІМЯНІНЫ

**12 верасня**
**Праваслаўныя:** Аляксандра, Анікея, Арсенія, Астапа, Гаўрылы, Данілы, Івана, Макара, Нікадзіма, Паўла, Рыгора, Савы, Спірыдона, Якава, Яфрэма.
**Каталіцкія:** Марыі.

**13 верасня**
**Праваслаўныя:** Генадзя, Купрыяна.
**Каталіцкія:** Яўгенні, Гвідона.

**14 верасня**
**Праваслаўныя:** Марфы, Сямёна.
**Каталіцкія:** Узвіжанне (Узвышэнне Крыжа Святога), Барнарда, Цыпрыяна.

**15 верасня**
**Праваслаўныя:** Антона, Багдана, Івана, Фядоса, Фядота.
**Каталіцкія:** Альбіны, Нікадзіма.

**16 верасня**
**Праваслаўныя:** Домны, Анікея, Дарафея, Захара, Зіновія, Івана, Пятра, Феафіла, Яфіма.
**Каталіцкія:** Камілії, Эдзіты, Карнеля, Цыпрыяна.

**17 верасня**
**Праваслаўныя:** Вавілы, Даната, Майсея, Фёдара, Юльяна, Іціа.
**Каталіцкія:** Юстыны, Роберта, Францішка.

**18 верасня**
**Праваслаўныя:** Елізаветы, Раісы, Аўдзея, Апанаса, Глеба, Давыда, Захара, Максіма, Фёдара.
**Каталіцкія:** Ірэны, Станіслава, Юзафа.

■ ШТО Б ГЭТА ЗНАЧЫЛА

## Дама ў капялюшыку

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзяўчына, што выразаў на старой таполі каля рэстарана «Маладзечна» разьбяр Анатоль Лавор, хутка пасталела. Цяпер у яе ёсць не толькі легкадумны вянок, але і капялюшык.**

На галаве скульптуры вырас грыб. Ды не нарасць тыпу чагі, а сапраўдны: на тоўстай ножцы, з белай шляпкай. Хоць расце на дрэве, але падобны не на апеньку, хутчэй на грузд, толькі не ўцісну́ты ў цэнтры шапачкі. Цяпер дзяўчына трохі прыкрыта ад дажджу і сонца – ужо не прастудзіцца, і ў галаву не напячэ. Прадаўцы рэстараннага кафетэрыя заўважылі новы аксесуар драўлянай модніцы. Рабочыя з дня на дзень збіраюцца прынесці лесвіцу і зняць "упрыгожанне". Хаця рабіць гэта, можа, і няварта. Грыб надае прыгажуні ў нацыянальным строі нейкую пікантнасць. Раптам гэта якраз тая "разыначка", аб якой драўляная дзяўчына марыла з моманту свайго стварэння.

**Святлана ЦІШКО.**

## Дапамагаюць бабулькам

МЯДЗЕЛ. Чацвёрты год запар на Мядзельшчыну прыязджае спецыяльны атрад з нямецкіх школьнікаў. Жывуць яны ў вёсцы Дружная і дапамагаюць адзінокім людзям па гаспадарцы: ставяць платы, робяць рамонт у хатах. Не стаў выключэннем і сёлетні год. 11 падлеткаў ва ўзросце ад 14 да 17 гадоў на чале з нязменным кіраўніком Ульрыкай Егер шчыруюць у нашых вёсках.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно



Вітаю вас, сябры! Зноў з вамі любімы конкурс! Рада паведаміць, што з заданнямі, якія былі прапанаваныя ў мінулым нумары "РГ", справіліся Дзмітрый Мікалаевіч Працько, Аляксандр Антонавіч Міцюк, Ігар Сільвановіч, Аляксей Шчасны, Юрый Юхневіч, Вольга Палівода, Дзмітрый Пакладок, Марыя Мяленцеўна Васілеўская, Дзяніс Аляксеевіч Мядзведскі, Віктар Іванавіч Яцкоўскі, Алеся Аляксандраўна Мядзведская з Маладзечна. Але фартуна ўсміхнулася Аляксандру Антонавічу Міцюку, Аляксею Шчаснаму і Марыі Мяленцеўне Васілеўскай. Прыходзьце, калі ласка, да нас у рэдакцыю за білетамі ў кінатэатр, яны вас чакаюць да 19 верасня. А, не адрываючы алоўка ад паперы, прапанаваныя фігуры можна намаляваць так:





Сёння мы зноў будзем браць штурмам адну з "крэпасцей царства кемлівасці", рашаць лагічныя задачкі. Для гэтага патрэбны не так запас якіх-небудзь спецыяльных ведаў, як кемлівасць. Неабходна мець на ўвазе і відавочныя ісціны: улічваць, што бацька старэйшы за свайго сына, а ў футбол за зборную завода гуляюць толькі мужчыны і г. д. А зараз, заданні:

"Старадаўняя загадка". Ішлі гурбой: цешча з зяцем ды мужык з жонкай, маці з дачкой ды бабуля з унучкай, ды дачка з бацькам. Ці шмат усіх?

"Сям'я Міхалёнкаў". У сям'і Міхалёнкаў пяць чалавек: муж, жонка, іх сын, сястра мужа і бацька жонкі. Усе яны працуюць. Адзін – інжынер, другі – юрыст, трэці – слесар, чацвёрты – эканаміст, пяты – настаўнік. Вось што яшчэ вядома аб іх. Юрыст і настаўнік не кроўныя сваякі. Слесар – добры спартсмен, ён пайшоў па слядах эканаміста і гуляе ў футбол за зборную завода. Інжынер старэйшы за жонку свайго брата, але маладзейшы за настаўніка. Эканаміст старэйшы за слесара. Назавіце прафесіі кожнага члена сям'і.

Адказы прымаюцца да аўторка (16 верасня) уключна. На кон выстаўляюцца 5 білетаў.



Чытачоў азадачвала Аксана КУЛЕЎНІЧ.

# Купон 37

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

